Гродна
№19 (525),
27 кастрычніка 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# “Жанчыну дасканалую хто ж знойдзе?”

(Прып 31, 10)

**ПЕРШЫЯ ДНІ ЛІСТАПАДА – МАГЧЫМАСЦЬ, КАБ ПАРАЗВАЖАЦЬ НАД МІНУЧАСЦЮ ЖЫЦЦЯ І НЕПАЗБЕЖНАСЦЮ СМЕРЦІ, А ТАКСАМА НАД КАНЧАТКОВЫМ ПРЫЗНАЧЭННЕМ ЧАЛАВЕКА. ДА ГЭТАГА РАЗВАЖАННЯ ЗААХВОЧВАЕ НАС АТМАСФЕРА МОГІЛАК, КУДЫ ПРЫХОДЗІМ, КАБ ЗАПАЛІЦЬ ЛАМПАДЫ, ПАСТАВІЦЬ КВЕТКІ І ЎЗНЕСЦІ ДА БОГА СВАЕ МАЛІТВЫ Ў ІНТЭНЦЫІ ПАМЕРЛЫХ БЛІЗКІХ.**

● працяг на с. 4



# Праз крыж і смерць да ўваскрасення і хвалы

**26 КАСТРЫЧНІКА ПРЫПАДАЕ 106-АЯ ГАДАВІНА НАРАДЖЭННЯ ДЛЯ НЕБА БЛ. ЦЭЛІНЫ БАЖЭНЦКАЙ. РАЗАМ З ДАЧКОЙ ЯДЗВІГАЙ ЯНА ЗАСНАВАЛА КАНГРЭГАЦЫЮ СЯСЦЁР УВАСКРАСЕННЯ ПАНА НАШАГА ЕЗУСА ХРЫСТА (ЗМЁРТВЫХПАЎСТАНКІ), ШТО З’ЯЎЛЯЕЦЦА ФЕНОМЕНАМ У ГІСТОРЫІ КАСЦЁЛА. ЯК ГЭТА СТАЛА МАГЧЫМЫМ? І ЧЫМ БЛАСЛАЎЛЁНАЯ МОЖА БЫЦЬ БЛІЗКАЙ КОЖНАМУ ВЕРНІКУ?**

● працяг на с. 5

“Святыя – гэта тыя апошнія для свету, якія сталі першымі для Бога”. Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 18, 9–14**

Езус расказаў такую прыпавесць некаторым упэўненым у сваёй праведнасці, якія пагарджалі іншымі: “Два чалавекі зайшлі ў святыню памаліцца; адзін фарысей, а другі мытнік. Фарысей, стаўшы, маліўся сам сабе так: «Божа, дзякую Табе, што я не такі, як іншыя людзі, рабаўнікі, несправядлівыя, распуснікі або як гэты мытнік. Пашчуся два разы на тыдзень, даю дзесяціну з усяго, што набываю». А мытнік, стоячы воддаль, не адважваўся нават падняць вачэй да неба, але, б'ючы сябе ў грудзі, казаў: «Божа, будзь міласцівы да мяне, грэшніка». Кажу вам, што менавіта гэты пайшоў у дом свой апраўданы, а не той, бо кожны, хто ўзвышае самога сябе, прыніжаны будзе, а хто прыніжае сябе, узвысіцца”.

### НЕ ЎЗВЫШАЦЬ СЯБЕ НАД ІНШЫМІ

Бог любіць сэрцы, напоўненыя праўдай і пакорай. Не церпіць пыхі, падману з зласлоўя. Гэта пацвярджае прыклад фарысея і мытніка з прыведзенага фрагмента Евангелля. Мытнік, які стаў перад Панам з голай праўдай пра сябе, пайшоў апраўданы. Фарысей жа, які хваліўся сваімі ўчынкамі, а іншых абвінавачваў, не атрымаў прабачэння.

Пакора – гэта дзеянне ў праўдзе, прыніжэнні сябе, каб быць узнесеным Богам. Гэта спробы пазбавіцца ад усяго, што перашкаджае, каб магчы напоўніць сэрца Праўдай.

Толькі ласка Усемагутнага, якая ачышчае, апраўдвае і асвячае, дазваляе чалавеку стаць лепшым. Пан адорвае Ёю тых, хто пакорна просіць: “Божа, будзь літасцівы да мяне, грэшніка!”. Толькі такія будуць узвышаны, паколькі Хрыстос не за “дасканалых”, а за грэшнікаў пайшоў на ўкрыжаванне.

**Якую паставу я займаю перад Богам?**

**Ці стараюся быць пакорным чалавекам?**

### XXXI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 19, 1–10**

Езус увайшоў у Ерыхон і праходзіў праз яго. І вось адзін чалавек па імені Закхей, кіраўнік мытнікаў і багаты, стараўся ўбачыць Езуса, хто Ён такі, але не мог з-за натоўпу, таму што быў малога росту. Забегшы наперад, ён залез на смакоўніцу, каб убачыць Яго, бо Ён павінен быў там праходзіць. Калі Езус прыйшоў на гэтае месца, паглядзеў уверх і сказаў яму: “Закхей, хутчэй спускайся, бо сёння Мне трэба быць у тваім доме”. Той хутка спусціўся і прыняў Яго з радасцю. А ўсе, убачыўшы гэта, пачалі наракаць і казалі, што Ён зайшоў пагасціць да грэшнага чалавека. Закхей жа ўстаў і сказаў Пану: “Вось палову маёмасці сваёй, Пане, я аддам убогім і, калі каго ў чым ашукаў, аддам у чатыры разы больш”. Езус сказаў яму: “Сёння прыйшло збаўленне ў дом гэты, таму што і ён сын Абрагама. Бо Сын Чалавечы прыйшоў знайсці і выратаваць тое, што загінула”.

### КАМБІНАВАЦЬ ДЛЯ БОГА

У Евангеллі сустракаем Закхея – кіраўніка мытнікаў, праца якіх заключалася ў зборы падаткаў. Яны часта ашуквалі людзей, каб такім чынам хутчэй зарабіць грошы. Таму нярэдка чулі за спіной, што з'яўляюцца камбінатарамі, махлярамі ці падманшчыкамі.

Наш герой моцна прагнуў убачыць Езуса, але з-за нізкага росту не меў шанцаў разгледзець Яго сярод натоўпу. Пачаў камбінаваць. І вырашыў узлезці на смакоўніцу, каб з яе вышыні глядзець на Хрыста. Езус, праходзячы побач, заўважыў яго і паклікаў да сябе. Наколькі вялікай была радасць Закхея, калі Настаўнік папрасіўся да яго на гасціну!

Гэта добры спосаб камбінавання, бо мэта дасягнута, а ніхто не ашуканы і не пакрыўджаны. Нам часам даводзіцца камбінаваць па-людску. Неадночы хіба чулі каментарыі тыпу “не камбінуй”, “ну ты і накамбінаваў”… Звычайна яны з'яўляюцца не пахвалой, а наадварот – асуджэннем. У дадзеным фрагменце Евангелля Езус заклікае нас да “Божага камбінавання”.

Варта перамагчы страх і рызыкаваць, так як Закхей. Неабходна толькі памятаць аб выкананні адной умовы: спосаб рэалізацыі павінен быць згодны з чаканнямі Усемагутнага. Наша камбінаванне належыць папярэдзіць малітвай. Калі яно адпавядае Божай волі, Пан раней ці пазней дапаможа дасягнуць мэты.

**Як я будую свае штодзённыя адносіны з Богам?**

**Ці магу планаваць сваё жыццё згодна з Божым намерам?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Вернасць малым рэчам

*Сакрэт святых і праслаўлёных заключаецца ў тым, што яны не столькі набліжаюцца да Бога, бо Ён зусім ні ад іх, ні ад нас на адаляецца, колькі ўсё глыбей усведамляюць Яго блізкую і нязменную прысутнасць.*

Такія асобы цудоўна разумеюць, што азначаюць словы св. Паўла: “У Богу жывём, рухаемся і існуем” (Дз 17, 28). Яны бачаць Пана не дзесьці ў замагільным свеце, у прывілеяваным месцы ці нават побач з сабой, а найперш у сабе. Св. Ян ад Крыжа пісаў: “Бог ува мне, а я ў Богу”.

Большасць святых і блаславёных вялі звычайнае жыццё. Яны не рваліся на першыя месцы, наўмысна не прыцягвалі да сябе ўвагу. Нярэдка лічылі сябе вялікімі грэшнікамі. Таксама, як і ўсе, перажывалі цяжкасці, спакусы і змаганні. Цярпелі, плакалі, цешыліся і жартавалі. Ніводзін з іх не быў казачным персанажам ці прышэльцам з космасу, адарваным ад штодзённага жыцця. “Святыя – гэта нашы браты і сёстры, якія прынялі ў сваё жыццё святло Бога і перадалі яго свету, кожны згодна са сваім «адценнем». Але ўсе былі празрыстымі, змагаліся, каб пазбавіцца ад плям цемры граху”, – казаў папа Францішак.

Святыя зусім не “спяць” і не “адпачываюць у супакоі”, як мы прызвычаіліся прасіць для памерлых, маючы на ўвазе вызваленне ад трывог і пакут цяперашняга жыцця. Нашы блаславёныя браты і сёстры, хутчэй, нястомна дзейнічаюць. Гэта выражае праўда пра “еднасць святых”, г. зн. існуючую сувязь паміж Богам, жыхарамі Неба і астатнімі членамі Цела Хрыстовага.

Святыя, якія жывуць сярод нас, разліваюць дабро навокал, становячыся каналамі Божай любові. Святыя, якія ўжо цешацца блізкасцю Пана, таксама думаюць аб карысці для зямнога люду, таму што Нябесны Айцец, у якога ўглядаюцца, заўсёды памятае пра чалавека. Яны могуць перадаваць нам Божыя дары, умацоўваць у веры, дадаваць сіл, каб перамагчы нягоды, указваць дарогу, рассейваць цемру, калі папросім іх аб гэтым.

Мы часта баімся святасці, лічым, што гэта занадта складана. І таму зводзім сваю веру выключна да пазбягання зла, недаацэньваючы простыя жэсты. Аднак трэба звярнуць увагу на тое, што Езус не папракае несправядлівых, што яны Яго падманулі, абрабавалі альбо забілі. Наадварот, указвае ім на занядбаныя добрыя ўчынкі: “Я быў галодны, і вы не далі Мне есці...” (параўн. Мц 25, 42). Святасць заключаецца ў вернасці малым рэчам! Падаць кубак вады, зрабіць бутэрброд, наведаць хворага, даць вопратку таму, хто замёрз, – вось пачатак святасці. Варта памятаць, што любоў да Бога з'яўляецца любоўю да чалавека. І наадварот.

**Дарагія Чытачы!**

Святасць – гэта дар, які нам ахвяруе Хрыстос, калі забірае з сабой і апранае ў сябе. А таму святы той, хто сваім жыццём пераймае Пана Езуса. Няхай Маці Божая, Каралева ўсіх святых і Брама нябесная, заступаецца за наш шлях да Божага Валадарства!

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Падкамісія па справах касцёльнай музыкі і спеву

У межах І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі бп Аляксандр Кашкевіч стварыў Падкамісію па справах касцёльнай музыкі і спеву, якая ўваходзіць у склад Камісіі па справах літургічнага душпастырства і сакраментальнага жыцця. Абшарам яе зацікаўленасці з'яўляецца ўсё тое, што датычыць спеву і музыкі ў нашых святынях.

Касцёльная музыка вылучаецца святасцю, г. зн. праўдай, прыгажосцю формы і ўсеагульнасцю. Яна не можа падлягаць свецкім рэмінісцэнцыям і банальным формам поп-музыкі. Рэпертуар, які выконваецца падчас св. Імшы, павінен быць згодным з літургічнымі правіламі, беручы пад увагу асобныя часткі літургіі, адпавядаць літургічнаму перыяду.

Музыка, што гучыць падчас св. Імшы, а ў асаблівасці спеў, з'яўляецца не толькі аздабленнем урачыстай літургіі, але таксама яе інтэгральнай часткай: служыць праслаўленню Бога і асвячэнню вернікаў (параўн. KL 112). Таму яна павінна быць згодная з духам і важнасцю літургіі, спрыяць удумліваму перажыванню св. Імшы. Не можа выключаць сабраных вернікаў з удзелу ў спеве, а яднаць іх, каб галасы супольна гучалі падчас літургічных дзеянняў.

Члены Падкамісіі заўважаюць, што супольнасць Касцёла Гродзенскай дыяцэзіі працягвае традыцыі рэлігійнай і літургічнай музыкі. Заахвочваюць святароў, катэхетаў і, у першую чаргу, арганістаў цярпліва навучаць маладых людзей рэлігійным песням. Звяртаюць таксама ўвагу на тое, што душпастырам варта шукаць шляхі і прыкладваць намаганні, каб заахвоціць парафіян да супольнага спеву падчас літургічных цэлебрацый. Гэта можа ў значнай ступені актывізаваць набожнасць вернікаў.

На пасяджэннях Падкамісіі падкрэсліваецца, што ў св. Імшы з удзелам дзяцей і моладзі належыць падабраць адпаведныя літургічныя песні з улікам узросту ўдзельнікаў і іх выканаўчых магчымасцей, а таксама неабходнасці захаваць сакральны і малітоўны характар цэлебрацыі Эўхарыстыі.

Падкамісія адзначае, што ў буйных парафіях павінны дзейнічаць парафіяльны хор і літургічныя музычныя калектывы, каб ажывіць нядзельныя св. Імшы. Рэкамендуецца таксама стварэнне інструментальных гуртоў, якія выконвалі б касцёльную музыку. У меншых парафіях, дзе няма арганіста, спеў могуць падтрымліваць адпаведна падрыхтаваныя для гэтага кантары.

Падкамісія таксама разважае аб стварэнні дыяцэзіяльнай пляцоўкі, якая б займалася навучаннем будучых і фармацыяй дзеючых арганістаў і касцёльных музыкаў.

Заахвочваем ахінуць малітоўнай памяццю членаў Падкамісіі па справах касцёльнай музыкі і спеву. Няхай музыка і спеў, якія гучаць у нашых святынях, спрыяюць ажыўленню веры людзей і служаць сустрэчы чалавека з Богам.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Сезонная дэпрэсія.

# Абыдземся без антыдэпрэсантаў



***З надыходам восеньскіх халадоў усё часцей ідзе дождж, цёмныя густыя хмары закрываюць неба, дні становяцца карацейшымі – і многіх людзей пачынае перапаўняць туга. Яны становяцца больш стомленымі, сумнымі, раздражняльнымі, прыгнечанымі, лянуюцца падымацца з ложка халодным ранкам, маюць менш энергіі і энтузіязму да працы. Такі стан называецца сезоннай дэпрэсіяй альбо сезонным эмацыянальным захворваннем. Што гэта такое і як з гэтым змагацца?***

### АДКУЛЬ БЯРЭЦЦА СЕЗОННАЯ ДЭПРЭСІЯ

На працягу многіх стагоддзяў жыццё чалавека было наўпрост звязана з прыродай. Вясной і летам даводзілася шмат працаваць, а восенню і зімой, калі прырода замірае, а дзень становіцца кароткім, працы было менш, тэмп жыцця натуральным чынам запавольваўся. Чалавек рыхтаваўся пераждаць халады і ўпадаў у лёгкі стан "сну": зніжаўся метабалізм, падаў узровень энергіі. Рытмы прыроды і поры года вызначалі паўсядзённую дзейнасць людзей.

У сучасным свеце, калі спрабуем замяніць недахоп сонечнага святла лямпачкай, наша актыўнасць амаль цэлы год застаецца на больш-менш высокім узроўні. Магчыма, тое, што ў мінулым дазваляла спраўляцца з неспрыяльнымі ўмовамі, звязанымі са зменамі ў прыродзе, зараз ускладняе нам жыццё.

### ПРЫЧЫНЫ СЕЗОННЫХ ПАРУШЭННЯЎ

Лічыцца, што галоўным фактарам сезоннай дэпрэсіі з'яўляецца недахоп сонечнага святла, якое ўплывае на функцыянаванне розных структур мозга. Даказана, што самым неспрыяльным з'яўляецца недахоп святла ў ранішнія гадзіны, паколькі ён скажае вельмі важныя рытмы чалавека – сон і чуванне. Гэта выклікае ўзмоцненае выдзяленне мелатаніна, т. зв. гармона сну. У выніку мы становімся соннымі і стомленымі. Акрамя таго, ён збівае рытмы іншых гармонаў, напрыклад, зніжае сератанін, які, у прыватнасці, адказвае за падтрыманне ўзроўню добрага настрою.

Таксама сезонныя ваганні настрою звязаны з індывідуальнай успрымальнасцю чалавека. Сярод магчымых прычын – зніжэнне адчувальнасці сятчаткі вока да святла.

> **СІМПТОМЫ СЕЗОННАЙ ДЭПРЭСІІ:**
> - заняпад сіл
> - моцная стамляльнасць
> - праблемы з канцэнтрацыяй увагі
> - павышаны / паніжаны апетыт
> - большая, чым звычайна, працягласць сну
> - частае жаданне застацца ў адзіноце

### ХТО ХВАРЭЕ ЧАСЦЕЙ ЗА ЎСЁ

Сезонная дэпрэсія закранае людзей, якія жывуць у цэнтральных і паўночных геаграфічных шыротах. У Еўропе сімптомы восеньскага смутку адчувае каля 10-15% насельніцтва.

Ад сезоннай дэпрэсіі пакутуць у асноўным маладыя людзі. Першы эпізод звычайна адбываецца ва ўзросце 20–40 гадоў. Цікава, што жанчыны часцей пакутуюць у параўнанні з мужчынамі (прыкладна ў 4 разы). Таксама сезонная дэпрэсія нярэдка назіраецца ў дзяцей. Існуе версія, што схільнасць да эмацыянальнага захворвання перадаецца генетычна.

***Сезонныя ваганні настрою могуць здарыцца з кожным, хоць часцей за ўсё бываюць у людзей з тонкай псіхічнай арганізацыяй, а таксама аслабленых стрэсамі, хваробамі, незадаволеных жыццём. Варта своечасова зразумець, што першым тэрапеўтычным сродкам ад прыгнечанасці з'яўляецца ўсё тое, што прыносіць радасць.***

## Як змагацца з сезонным пагаршэннем настрою і зноў атрымліваць асалоду ад жыцця?

### Здаровая дыета

Увосень нашы рукі часцей цягнуцца да салодкіх пачастункаў, якія паляпшаюць настрой і даюць зарад энергіі. Аднак памятайма, што эфект задавальнення доўжыцца нядоўга. Таму варта аддаваць перавагу складаным вугляводам. Мы знойдзем іх у хлебе з мукі грубага памолу, аўсянцы, крупах і бабовых. Таксама ў восеньскі перыяд асабліва важна прымаць вітаміны і мінералы:
• вітаміны групы B (малако, яйкі, зялёная агародніна),
• магній (фасоля, семачкі гарбуза і сланечніка), • амега-3 тлустыя кіслоты (рыба, грэцкія арэхі). Гэтыя прадукты паляпшаюць працу нервовай сістэмы, дадаюць энергіі і дапамагаюць змагацца са стрэсам. Напоі, якіх варта пазбягаць, – моцная кава і гарбата, алкаголь.

### Якасны сон

Калі мы стомленыя і нявыспаныя, не маем ні сіл, ні жадання, каб рабіць нават самыя простыя рэчы. Таму трэба дбаць не толькі пра працягласць сну, але і пра яго якасць: класціся спаць і ўставаць у адзін і той жа час, перад сном прынімаць цёплую ванну ці душ, выключаць тэлевізар і смартфон як мінімум за 30 хвілін, есці лёгкую вячэру не пазней чым за 2 гадзіны.

### Аздараўленчы ўплыў святла

Неабходна прабываць у натуральным святле як мага даўжэй. А калі мы праводзім цэлы дзень на працы па-за вуліцай, трэба пастарацца часцей бываць ля акна. Добрым рашэннем можа стаць фотатэрапія ў кабінеце ўрача альбо выкарыстанне спецыяльнай лямпы, якая імітуе натуральнае сонечнае святло.

### Спорт і фізічная актыўнасць

Падчас фізічных нагрузак наш арганізм выпрацоўвае павышаную колькасць эндарфінаў – гармонаў шчасця. Менавіта таму не трэба адмаўляцца ад кароткіх шпацыраў, веласіпедных прагулак нават у дрэнное надвор'е. Можна выконваць фізічныя практыкаванні дома ці запісацца на заняткі ў трэнажорную залу.

### Хобі і рэлакс

Восень – выдатны час для пошуку новага хобі. Доўгія вечары і "лянівыя" выхадныя дні падштурхоўваюць да развіцця крэатыўнасці і творчага патэнцыялу, тым больш, што любы дадатковы занятак адцягвае ад цёмных думак і дазваляе засяродзіцца на чымсьці прыемным. Не варта таксама забываць пра добры адпачынак: чытанне кнігі, паход у кіно, сустрэчу з сябрамі і блізкімі.

*Кінга Красіцкая*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*У наш час, пазначаны глабалізацыяй – якая павінна быць салідарнай і паважлівай да асаблівасцей народаў, але якая пакутуе ад уніфікацыі і старых канфліктаў з-за ўлады, што распальваюць войны і знішчаюць планету – вернікі пакліканы з абноўленым запалам несці паўсюль добрую навіну аб тым, што ў Езусе міласэрнасць перамагае грэх, надзея – страх, братэрства перамагае варожасць. Гаворка ідзе пра тое, каб адчуць моцны заклік да місійнай дзейнасці сярод усіх народаў і людзей, якія жывуць на ўзбочыне тут, сярод нас. Менавіта ад нашага братэрства, веры і любові будзе зыходзіць сіла і імпульс для місійнай дзейнасці. Жыць у братэрстве толькі ва ўласным закрытым коле – значыць гасіць Духа, які робіць людзей з'яднанымі дзеля абвяшчэння таго, што Хрыстос – наш супакой, што ў Ім былі пераможаны ўсе падзелы, што толькі ў Ім ёсць збаўленне для кожнага народа і кожнага чалавека. Для паўнаты місійнай дзейнасці існуе неад'емная ўмова – малітва. Малітва гарачая і няспынная, згодна з навучаннем Езуса, у якім Ён распавядае прыпавесць пра тое, што "трэба заўсёды маліцца і не падаць духам" (Лк 18, 1). Малітва – гэта першая падтрымка з боку Божага народа для місіянераў, багатая любоўю і ўдзячнасцю за складанае заданне абвяшчаць і дарыць святло і ласку Евангелля тым, хто іх яшчэ не атрымаў. Сёння спытай сябе: "А ці малюся я за місіянераў?".*

*Фрагмент прамовы перад малітвай "Анёл Панскі" ў Ватыкане, 20.10.2019*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Калі хочам быць сапраўднымі хрысціянамі, вернымі вучнямі Езуса Хрыста, у сваім духоўным жыцці мы не можам згаджацца на пасрэднасць. Не можам мець летняе сэрца, абыякавае, раздзеленае паміж Панам Богам і справамі гэтага свету. У сэрцы хрысціяніна Усемагутны павінен быць заўсёды на першым месцы, і тады ўсё іншае будзе на правільным месцы. Дарога да святасці ва ўсіх людзей свая, у залежнасці ад іх паклікання. Але кожны на гэтай дарозе павенен сустрэць Хрыста і пайсці за Ім... Няхай Святы Дух нястомна нас асвячае і дапаможа зразумець, што нашым найлепшым Сябрам і найбольшым Шчасцем з'яўляецца Езус Хрыстус, наш Збаўца.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай на адпустовай урачыстасці ў касцёле св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне, 15.10.2019*




*◆ У Ватыкане прадставілі электронны ружанец. Ён не толькі палягчае лік альтэрнатыўнага “Ave”, але і прапануе разважанні і багаты дыдактычны матэрыял, які вучыць гэтай малітве. Спецыяльны бранзалет уключаецца аўтаматычна, калі карыстальнік робіць знак крыжа. Інтэрактыўная прылада інтэгруецца з дадаткам Click To Pray eRosary, загружаным на смартфон або планшэт, і запускае аўдыёкантэнт з выявамі і індывідуальным зместам, распрацаваным для палягчэння вывучэння і паглыблення ружанцовай малітвы.*

*◆ У наступным годзе Апостальскі Пасад запусціць платформу VatiVision, якую журналісты ўжо ахрысцілі “Ватыканскім Netflix”. Як і Netflix, яна будзе працаваць па прынцыпе “паказ па жаданні”, прапаноўваючы гледачам серыялы і фільмы на хрысціянскую тэматыку. Глабальныя трансляцыі змогуць ахапіць каля 1,3 мільярды католікаў па ўсім свеце. Стваральнікамі платформы сталі медыясаюз “Афіны дэ ла Камунікацыёна”, які супрацоўнічае з Апостальскім Пасадам, і “Ветрыя” – адзін з італьянскіх лідэраў у сферы інтэрнэт-камунікацый.*

*◆ Італьянскія даследчыкі лічаць, што Турынская плашчаніца была ў Візантыі ў пачатку VI стагоддзя. Навукоўцы з Падуанскага ўніверсітэта разглядзелі мікрачасціны золата, знойдзеныя на пахавальным палатне, і параўналі іх з залатымі манетамі лідыйцаў, адчаканенымі ў Візантыйскай імперыі. Незвычайны сплаў нячаста выкарыстоўваўся ў старажытнасці. У сувязі з гэтым узнікла версія, што Турынская плашчаніца выстаўлялася там для пакланення. Вынікі даследавання могуць сведчыць аб тым, што Плашчаніца знаходзілася ў сталіцы Візантыі Канстанцінопалі, перш чым крыжакі вывезлі яе ў якасці трафея ў 1204 годзе.*

*◆ На Філіпінах паўстае найвышэйшая ў свеце статуя Маці Божай, якая сягае ўверх на 100 метраў. Фігура Багародзіцы прысвечана адзінству і міру народаў Паўднёвай Азіі. Яна ўзводзіцца на гары ў Мантэмарыі, у месцы, куды ўжо накіроўваюцца шматлікія паломніцтвы. Фігура ўвенчвае гіганцкі комплекс Мантагас Сіці, які разлічаны, у прыватнасці, на 12 капліц Марыі, а таксама рэстаран, міні-тэатры і канферэнц-залы. На сёння самая высокая статуя Маці Божай дасягае вышыні 50 метраў (знаходзіцца ў Венесуэле).*

*◆ Упраўленне інфармацыі Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы апублікавала на сваёй афіцыйнай старонцы ў Facebook першае відэа праграмы #ВсеПросто. Гэта катэхетычны цыкл, у якім святары-блогеры тлумачаць тое, што “ў веры здаецца цяжкім”. Аўтары плануюць выпусціць 7 поўнаметражных відэаролікаў, каб зрабіць даступнымі гледачам усе святыя сакраманты.*

*vaticannews.va; credo.pro; aleteia.org*

# “Жанчыну дасканалую хто ж знойдзе?”

## (Прып 31, 10)


*Гаспадыня Генавефа Казакевіч*

● *працяг са с. 1*

***Сёння на старонках “Слова Жыцця” распавядаем пра незвычайную асобу – светлай памяці Генавефу Казакевіч. Жанчына служыла гаспадыняй у лідскіх святароў, забітых падчас II Сусветнай вайны.***

### ПРАСТАТА І СЛУЖЭННЕ

Генавефа Казакевіч паходзіла з в. Бельскае, што каля Ліды. Працавала ў плябаніі пры парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Слабада), дзе служылі кс. пробашч Вінцэнт Лабан і кс. вікарый Люцыян Мрачкоўскі.

29 чэрвеня 1942 года, ва ўрачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла, калі абодва святары адпраўлялі св. Імшу ў касцёле, у дом пастукаліся нямецкія салдаты. Мужчыны паведамілі, што ксяндзоў выклікаюць у камісарыят. Па вяртанні з касцёла святары паслухмяна падпарадкаваліся загаду.

Гаспадыня не губляла надзеі, што яны хутка вернуцца. На жаль, пра святароў не было ніякіх звестак. Пасля чарговай бяссонай ночы жанчына накіравалася за парадай да пробашча фарнай парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе кс. дэкана Іпаліта Баярунца. Яго немцы пакінулі ў спакоі, таму што быў ужо ў пажылым узросце. Душпастыр паведаміў спадарыні Генавефе: ксяндзы былі затрыманы і знаходзяцца ў вязніцы. Параіў, каб у любым выпадку іх не пакідала, а далей служыла з тым самым запалам.

З гэтага часу жанчына штодзённа хадзіла ў турму са сціплым абедам. Прыносіла таксама чыстую бялізну. Наведвала святароў 2 разы на дзень на працягу 10-ці месяцаў.



*Магіла лідскіх святароў, забітых падчас II Сусветнай вайны*

### МУЖНАСЦЬ І ГЕРАІЗМ

Напярэдадні Вігіліі Божага Нараджэння жанчына, як звычайна, накіравалася ў турму. Узяла з сабой аплатку, белую сурвэтку, ежу на 3 асобы (таксама для кс. Альфонса Бароўскага, пробашча з Лядска, бо да яго ніхто не прыходзіў). Там сустрэла намесніка каменданта турмы, які прыхільна ставіўся да святароў. Неаднойчы прасіў яе, каб прынесла больш ежы – для тых, каго ніхто не наведвае.

Тым разам адважная жанчына сказала: “Вазьміце ўсё, што я прынесла, і выпусціце двух маіх святароў. Дома ёсць бульба, то прыгатуем і з’ямо. А раніцай яны вернуцца. Калі не верыце, што прыйдуць назад, то я застануся тут, пабуду за іх”. Мужчына паклікаў каменданта. Спадарыня Генавефа ўпала яму ў ногі, паўтараючы сваю просьбу. У выніку на Божае Нараджэнне святары мелі магчымасць спажыць святочную вячэру ў плябаніі, пасля чаго адправілі св. Імшу. А раніцай накіраваліся назад у турму.

Калі камендант даведаўся, што ксяндзы вярнуліся, вельмі здзівіўся: “Навошта яны прыйшлі? Хіба не для таго я іх выпусціў, каб не прыходзілі ўжо больш?”. Аднак святары не маглі пакінуць пасаджаных у турму вернікаў. Хацелі ім спадарожнічаць, не губляючы надзеі, што ўсе разам шчасліва вернуцца дадому.

### УЧЫНАК МІЛАСЭРНАСЦІ

10 сакавіка 1943 года гаспадыні вярнулі назад прынесеную ёю ежу. Падумала, што святароў будуць перавозіць у іншае месца, і вырашыла бегчы на вакзал. Па дарозе сустрэла міліцыянера, ад якога даведалася, што ні ежа, ні бялізна больш не патрэбныя, таму што святароў ужо няма на гэтым свеце...

У вялікай роспачы, не клапоцячыся пра сябе і не думаючы, што можа з ёю здарыцца, пачала шукаць магілу. Знайшла ўчастак узаранай зямлі ў сасновым лесе за стрэльбішчам пяхотнай казармы. Побач убачыла лужыну запечанай крыві. Зняла з галавы хустку і сабрала зямлю, змешаную з кроўю расстраляных святароў. Пазней закапала яе побач са святыняй і адзначыла месца.

Пачала задумвацца, якім чынам можна годна пахаваць святароў. Шукала людзей, якія маглі б у гэтым дапамагчы. Калі ахвотныя знайшліся, ноччу таемна ўсе разам накіраваліся ў лес, каб выкапаць целы. Іх пахавалі ў Дайнова ў двары спадарства Ухтаў. Грошы на труны, матэрыял, адзенне і іншыя выдаткі перадаў пробашч лідскай фарнай парафіі кс. Баярунец.

### ЗАВЕРШАНАЯ МІСІЯ

Ішлі гады. Генавефа Казакевіч служыла ў іншых святароў, затым працавала ў калгасе. Рэгулярна наведвала месца, дзе былі пахаваны святары, парадкавала магілы.

Аднойчы жанчына даведалася, што вернікі з Дайнова і Цыбараў скіравалі ў Лідскі райвыканкам просьбу аб дазволе на перазахаванне забітых святароў на могілках. Аднак яны не падпісалі просьбу, а толькі адзначылі, што заахвоціў іх да гэтага пробашч з Белагруды кс. Казімір Шаняўскі. Прадстаўнікі ўлад адправіліся ў вёскі ў пошуках аўтара ліста, аднак не знайшлі яго. Тады спадарыня Генавефа пайшла ў райвыканкам, каб расказаць усю праўду. Патлумачыла, якім чынам арыштавалі і забілі ксяндзоў, як і хто іх хаваў. Старшыня падышоў да справы з вялікім разуменнем і выдаў дазвол на эксгумацыю.

30 кастрычніка 1960 года парэшткі 9-ці забітых святароў былі перавезены на могілкі парафіі Слабада. У агульнай магіле спачылі целы пробашча парафіі Ліда-Слабада кс. Вінцэнта Лабана (45 гадоў), вікарыя той жа парафіі кс. Люцыяна Мрачкоўскага (34 гады), вікарыя лідскай Фары кс. Стэфана Снягоцкага (29 гадоў), пробашча з Нецечы кс. Аляксандра Аўгустыновіча (53 гады), пробашча з Беліцы кс. Стэфана Дабравольскага (44 гады), пробашча з Лядска кс. Альфонса Бароўскага (51 год), пробашча з Трабаў кс. Францішка Цыбульскага (58 гадоў), пробашча з Ліпнішкаў кс. Юрыя Ажароўскага (31 год), пробашча з Юрацішкаў кс. Вінцэнта Страснеўскага (34 гады).

Сёння помнік ксяндзам, якія загінулі за тое, што вучылі іншых любіць Бога і бліжняга, прыгадвае нам, сучаснікам, што любоў мацнейшая за нянавісць і зло.

### ДОКАЗ УДЗЯЧНАСЦІ

Генавефа Казакевіч памерла на пачатку 2000-ых гадоў. Пры жыцці гаспадыня неаднойчы паўтарала, што хацела б сустрэцца са святарамі, якім так верна і рупліва служыла, у Небе, каб зірнуць у вочы і сказаць “дзякуй” за ўсё дабро, якое ад іх на зямлі дасведчыла. Была пахавана на тых жа могілках, недалёка ад месца, дзе спачываюць яе ўмілаваныя душпастыры.

Да нядаўняга часу магіла жанчыны нічым не адрознівалася. Там стаяў звычайны металічны крыж. Не было нават таблічкі з надпісам, хто спачывае ў гэтым месцы. Аднак кс. прэлат Вінцэнт Лісоўскі, сучасны пробашч парафіі Ліда-Слабада, у якой служыла спадарыня Генавефа, вырашыў паставіць на месцы яе магілы прыгожы помнік, які будзе асвечаны ў першыя дні лістапада. Свой учынак ён тлумачыць тым, што варта захоўваць памяць пра такіх гераічных асоб і расказваць пра іх подзвігі маладым пакаленням. На помніку выгравіраваны словы: “Жанчыну дасканалую хто ж знойдзе?” (Прып 31, 10). Яны з’яўляюцца нібыта падсумаваннем жыцця адважнай гаспадыні.

Няхай постаць Генавефы Казакевіч – сціплай, але такой мужнай жанчыны – застанецца ў нашай памяці і ў нашых сэрцах!

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Праз крыж і смерць да ўваскрасення і хвалы

● працяг са с. 1

**_Госць нумара – с. Ганна Скалік CR з Рыма (Італія), якая разам з іншымі сёстрамі арганізуе пілігрымкі па слядах бл. Цэліны і яе дачкі Ядзвігі. У інтэрв'ю для "Слова Жыцця" манахіня распавядае пра незвычайную постаць заснавальніцы супольнасці і далейшы лёс яе сям'і._**

***– С. Ганна, скажыце, з якой мэтай паўстала ваша кангрэгацыя?***

– Харызма нашай манаскай сям'і – абвяшчэнне радаснай праўды аб тым, што Хрыстос уваскрос і жыве, а мы Яго моцай увесь час уваскрасаем да новага жыцця. Кожная сястра ў дзень складання вечных манаскіх абяцанняў атрымлівае крыж, на якім выгравіраваны словы: "Праз крыж і смерць да ўваскрасення і хвалы".


Госці ўрачыстасці з нагоды 100-годдзя парафіі ў Заневічах пры капліцы на месцы былога маёнтка Бажэнцкіх у Абрэмшчыне

Наша апостальская мэта заключаецца, галоўным чынам, у хрысціянскім навучанні і выхаванні. Працуем у школах ці арганізоўваем уласныя адукацыйна-выхаваўчыя ініцыятывы. Акрамя таго, апекуемся хворымі і займаемся іншым служэннем, у залежнасці ад патрэб Касцёла.

Асаблівае апостальства малітвы і ахвяры вядуць сёстры ў медытацыйным доме ў Гротафераце на тэрыторыі Італіі. Амаль 13 гадоў таму кангрэгацыя распачала працу на місіях, у Танзаніі. Гэта дар удзячнасці за беатыфікацыю Маці Цэліны, заснавальніцы супольнасці. Сёння здзяйсняем апостальскую паслугу таксама ў Аргенціне, Аўстраліі, Канадзе, ЗША і Польшчы.

***– Як у кангрэгацыі клапоцяцца аб развіцці культу яе заснавальніцы?***

– Прагнем, каб як мага больш людзей пазнаёміліся з бл. Цэлінай. Там, дзе гэта магчыма, выязджаем у парафіі, каб набліжаць вернікам яе постаць. Выдаём кнігі пра Маці Цэліну на англійскай, польскай і італьянскай мовах, каб сёстры маглі іх раздаваць у розных частках свету. Дзякуючы таленавітым манаскім асобам узнік гімн і песні ў гонар бласлаўлёнай. Ёсць і літанія.

Ладзім таксама пілігрымкі ў Беларусь па слядах бл. Цэліны і яе дачкі Ядзвігі. У іх удзельнічаюць не толькі нашы сёстры, але і сям'я заснавальніц ды іншыя асобы, якія сябруюць з супольнасцю.

Я была ў Беларусі 17 разоў. Побыты на гэтай зямлі пакінулі ў сэрцы кранальныя вобразы сустрэч з вернымі і руплівымі святарамі. Кожны раз шкада было ад'язджаць з Абрэмшчыны і Заневічаў. Узгадваліся словы Маці Цэліны, запісаныя ў 1884 годзе: "Шчасце было вялікім, калі прыбыла сюды [...]. Мяне сустрэлі з замілаваннем – ажно сорамна зрабілася, што мяне тут так любяць, нібы нейкі арэол маю".

***– Наколькі сёння бл. Цэліна вядомая ў свеце?***

– Культ бл. Цэліны пашыраецца галоўным чынам у месцах, звязаных з яе жыццём: у Беларусі і ў Польшчы. На тэрыторыі Беларусі – у Гродзенскай дыяцэзіі (у мясцовасцях Абрэмшчына і Заневічы, дзе рэалізавала пакліканне жонкі і маці), на тэрыторыі Польшчы – у Бельска-Жывецкай дыяцэзіі (у Кэнтах узнік першы кляштар на польскіх землях, там змешчаны саркафаг заснавальніц), у Кракаўскай дыяцэзіі (Кракаў – месца смерці Маці Цэліны і месца аздараўлення, якое было зацверджана як беатыфікацыйны цуд). Культ бл. Цэліны прысутны таксама ў Рыме, дзе 117 гадоў таму яна пабудавала першы манастыр кангрэгацыі, пад назвай "Casa Madre". Сёння ў парафіяльным касцёле св. Яўхіма, які знаходзіцца побач і дзе некалі малілася сама бласлаўлёная, знаходзіцца яе абраз.

Ад часу беатыфікацыі да цяперашняга моманту мы передалі для публічнага культу ў парафіяльных касцёлах і санктуарыях у розных частках свету каля сотні яе рэліквій. Яны знаходзяцца таксама ў 5-ці месцах на тэрыторыі Гродзескай дыяцэзіі: у касцёлах у Заневічах, Квасоўцы, Свіслачы, Малой Бераставіцы і ў капліцы ў Гудзевічах. Хацелася б падкрэсліць, што за распаўсюджванне культу бл. Цэліны ў Гродзенскай дыяцэзіі мы ўдзячны мясцовым ксяндзам біскупам і святарам, якія паходзяць з Заневічаў.

Збіраем сведчанні аб аздараўленнях і іншых ласках, атрыманых ад Бога праз заступніцтва бл. Цэліны. На дадзены момант у Рыме збіраецца дакументацыя аб мяркуемым аздараўленні 4-гадовай Цэлінкі з Бразіліі. Яна невыпадкова носіць такое імя. Бацькі дзяўчынкі належаць да парафіі, пробашчам якой з'яўляецца кс. Алесандра Лопес Алесіа з братняй супольнасці ксяндзоў змёртвыхпаўстанцаў, які рупліва пашырае культ бласлаўлёнай. Ёсць яшчэ адна Цэліна, сёння ўжо 18-гадовая жыхарка Кэнтаў, якая шчасліва прыйшла ў свет праз заступніцтва Маці Цэліны.

***– З якімі інтэнцыямі вернікі часцей за ўсё звяртаюцца да бласлаўлёнай?***

– Найчасцей вернікі просяць бл. Цэліну аб заступніцтве перад Богам у справах, якія нейкім чынам звязаны з гісторыяй яе жыцця: напрыклад, аб распазнанні жыццёвага шляху, аб добрым выбары сужэнца, аб дары патомства ці шчаслівым прыходзе дзіцяці на свет. Існуе таксама шэраг іншых просьбаў і намераў.

***– Чым асабіста для Вас блізкая бл. Цэліна?***

– Бл. Цэліна з'яўляецца для мяне духоўнай маці як заснавальніца манаскай сям'і, да якой належу. Я захапляюся яе непахіснай верай, мужнасцю і адвагай. Успрымаю манахіню як руплівую жанчыну, пра якую ідзе гаворка ў Кнізе Прыпавесцей Саламонавых. Стараюся чытаць нататкі бласлаўлёнай і адчуваю, што праз гэтыя запісаныя шмат гадоў таму словы яна сёння прамаўляе да мяне.

Багацце яе жыцця і харызмаў называю вялікай прыгодай з Богам. Менавіта так я таксама разумею сваё манаскае жыццё. Калі дазваляем Пану кіраваць сабой, адбываюцца незвычайныя рэчы, такія, аб якіх мы нават не марылі. Мая прыгода надалей працягваецца, паколькі не ведаю, напрыклад, дзе акажуся і што буду рабіць праз некалькі гадоў... Дакладна адно: там, куды Бог накіроўвае, мне будзе лепш.

***– Чаму мы можам навучыцца ў бл. Цэліны? Якім прыкладам з'яўляецца яе жыццё для вернікаў?***

– Ад Маці Цэліны можна многаму навучыцца. У першую чаргу, любові да Божай волі і вернасці ў супрацоўніцтве з Яго ласкай. Для Усемагутнага не існуе нічога немагчымага, таму, хоць гэта магло б падацца абсалютна неверагодным, правёў яе праз розныя этапы жыцця жанчыны: жонкі, маці, удавы, манахіні, цешчы, бабулі... У такім багацці вопыту здаецца, што кожны можа знайсці штосьці для сябе.

Шматразова пасля прэзентацыі ў парафіях постаці нашай заснавальніцы вернікі падыходзілі і казалі, што бл. Цэліна блізкая ім, бо ў гісторыі яе жыцця яны бачаць нейкую частку свайго. Падкрэслівалі, што могуць чэрпаць з яе мудрасці і досведу, паколькі, напрыклад, перажыла смерць 2-іх дзяцей, хваробу ды скон мужа, і для яе не былі чужымі цярпенні ў сямейным жыцці.


С. Ганна Алена Скалік (справа) ад імя кангрэгацыі передае дар для парафіі Заневічы

Пасля смерці сужэнца бл. Цэліна клапацілася пра добрае выхаванне 2-юх падрастаючых дачок, таму дасканала разумее звязаныя з тым радасці і клопаты. У "Дзённіку для маіх дачок" пакінула парады, якія не страцілі сваёй актуальнасці. Гэты матэрыял мы надрукавалі на 3-ох мовах, верачы, што яе каштоўнымі парадамі і выхаваўчымі метадамі змогуць карыстацца сучасныя бацькі і выхавацелі.

Нарэшце, бл. Цэліна можа быць прыкладам для асоб, што прысвяцілі сваё жыццё Богу. Асаблівым чынам для нас, змёртвыхпаўстанак, для якіх з'яўляецца духоўнай маці і заснавальніцай. Манахіня пакінула багатую спадчыну: шмат нататак і лістоў. У іх утрымліваюцца канкрэтныя парады і інструкцыі, як мы павінны жыць пасхальнай харызмай у штодзённасці.

***– Ці ведаеце Вы штосьці пра лёс старэйшай дачкі бласлаўлёнай, якую таксама звалі Цэліна?***

– Так, канешне. Яна выйшла замуж за Юзафа Галлера і на працягу некаторага часу жыла з мужам у Абрэмшчыне. Сужэнства мела 4 дачкі і сына. Адна дзяўчынка памерла яшчэ будучы немаўлём.

Цэліна Галлер адышла ў вечнае жыццё ў 1914 годзе і спачыла ў пахавальнай капліцы Бажэнцкіх – у касцёле ў Заневічах. Маёнтак у Абрэмшчыне перайшоў у спадчыну малодшай дачцэ Алене, якая выйшла замуж за Караля Дуніна. Заневіцкія старажылы дагэтуль успамінаюць іх дзяцей: Стася і Марысю.

Кангрэгацыя падтрымлівае сталы кантакт з далейшымі пакаленнямі сям'і, якія ідуць ад унучак Маці Цэліны: Цэліны, Марыі і Алены, а таксама ад унука Юзафа. Варта дадаць, што цуд да беатыфікацыі Маці Цэліны здарыўся ў яе сям'і, у 5-ым пакаленні, якое паходзіць ад унучкі Марыі. У жніўні гэтага года сям'я передала Кангрэгацыі знойдзены арыгінал яе духоўных нататак, якія сведчаць пра тое, што родныя нашых заснавальніц з самага пачатку былі перакананы ў іх святасці. Унучка Марыя пісала, што моліцца праз заступніцтва бабулі і цёціка (так называла Маці Ядзвігу) аб асвячэнні для свайго мужа і дачок. У нататках змясціла таксама малітву праз заступніцтва Маці Цэліны, сваёй бабулі.

Сёння сёстры ў Кэнтах штодзённа моляцца пры саркафагу бл. Цэліны і яе дачкі Ядзвігі. У супольнасцях, рассеяных па свеце, мы адпраўляем навэнны і малітвы праз заступніцтва заснавальніцы, верачы, што ў хуткім часе дачакаемся дня яе кананізацыі.

*Ангеліна Пакачайла*



**Цэліна Бажэнцкая (у дзявоцтве Хлюдзінская) нарадзілася 29 кастрычніка 1833 года ў Антовілі каля Оршы. Яшчэ маладой дзяўчынай прагнула ўступіць у кляштар, але паслухмяная волі бацькоў і спаведніка ў 1853 годзе выйшла замуж за Юзафа Бажэнцкага. У сужэнстве нарадзілася чацвёра дзяцей, двое з якіх памерлі ў маленстве. Пасля смерці мужа разам з дочкамі пераехала ў Рым (Італія). Там пазнаёмілася з генералам ксяндзоў змёртвыхпаўстанцаў кс. Пятром Семененкам, і да яе вярнулася думка пра манаскае жыццё. Карыстаючыся духоўным кіраўніцтвам святара, разам з дачкой Ядзвігай заснавала жаночае адгалінаванне гэтай супольнасці. Манаская кангрэгацыя сясцёр змёртвыхпаўстанак была афіцыйна заснавана 6 студзеня 1891 года ў Рыме. Першы манаскі дом на тэрыторыі Польшчы паўстаў у Кэнтах. Маці Цэліна Бажэнцкая кіравала кангрэгацыяй, пакуль не памерла. Адышла ў вечнасць 26 кастрычніка 1913 года. Прылічана да ліку бласлаўлёных 27 кастрычніка 2007 года папам Бенедыктам XVI.**







### *Юбілей Віцебскай дыяцэзіі*

***Сёлета Віцебская дыяцэзія святкуе 20-годдзе з часу свайго заснавання.***

*Яна была створана 13 кастрычніка 1999 года папам Янам Паўлам II. На тэрыторыі дыяцэзіі дзейнічаюць 3 санктуарыі – у Браславе, Шуміліне і Росіцы. Асаблівы цэнтр марыйнай набожнасці знаходзіцца ва Удзеле.*

*На сёння ў Віцебскай дыяцэзіі налічваецца 94 парафіі ў 11 дэканатах, у якіх нясуць служэнне 89 святароў, а таксама 45 манаскіх сясцёр і 3 манаскія браты. Колькасць вернікаў складае прыкладна 170 тысяч чалавек.*




### *Нобелеўка для польскай пісьменніцы*

***Вольга Такарчук атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры за творчыя дасягненні.***

*У абгрунтаванні прэміі напісана, што аўтар "ніколі не ўспрымае рэальнасць як нешта стабільнае ці вечнае. Грунтуе творы на напружанасці паміж культурнымі супрацьлегласцямі: прырода супраць культуры, розум супраць шаленства, мужчына супраць жанчыны, дом супраць адчужэння".*

*Асаблівай увагі Нобелеўскага камітэта заслужыў раман "Кнігі Якуба, або Вялікае падарожжа праз сем межаў, пяць моў і тры вялікія рэлігіі, без уліку малых", выдадзеная ў 2014 годзе. Твор выдатна падкрэслівае шматкультурнасць Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі, змешванне розных рэлігій, розных светаў на яе землях. Пра веруючых людзей – католікаў (у тым ліку духавенства), мусульман і іудзеяў – спадарыня Такарчук выказваецца цёпла і, як правіла, з вялікай пашанай. Гэта найвышэйшы ўзровень моўнага майстэрства.*




### *"Беспрытульны" біскуп*

***Іерарх прыйшоў на дыяцэзіяльны кангрэс грамадскага душпастырства пад выглядам бяздомнага.***

*Ардынарый дыяцэзіі Арменія (Калумбія) Карлас Артура Кінтэра Гомес пераапрануўся ў заношанае адзенне, наклаў адпаведны грым, каб яго ніхто не пазнаў, і адправіўся на з'езд, які праводзіўся ва ўніверсітэце Кіндыё. Ён маліў, прасіў дапамогі і нават падаў, каб убачыць рэакцыю людзей на "няпрошанага госця". "Гэта быў спосаб распазнаць пазіцыю хрысціян", – патлумачыў мэту свайго эксперыменту іерарх.*

*Біскуп адзначыў, што ніхто не аднёсся да яго дрэнна. Аднак вынікі "праверкі" з жалем падсумаваў толькі адным словам – "абыякавасць".*




### *Чым займаецца курыя?*

*Паняцце "курыя" паходзіць з лацінскай мовы. У Старажытным Рыме гэтым словам называлі месца пасяджэнняў сената або частку мясцовага самакіравання. У Каталіцкім Касцёле тэрмінам "курыя" абазначаецца адміністрацыйны апарат Апостальскай Сталіцы (Рымская Курыя), паасобных дыяцэзій, а таксама манаскіх інстытутаў ці таварыстваў апостальскага жыцця.*

*У кожнай дыяцэзіі ў Беларусі ёсць свая курыя з цэнтрамі ў Гродне, Мінску, Пінску і Віцебску. Кодэкс кананічнага права інстытуту дыяцэзіяльнай курыі прысвячае каноны 469–494. Згодна з пастановамі Кодэкса, дыяцэзіяльная курыя складаецца з устаноў і асоб, якія дапамагаюць дыяцэзіяльнаму біскупу ў кіраванні ўсёй дыяцэзіяй, асабліва ў пастырскай дзейнасці, эканамічнай сферы і выкананні судовай улады (параўн. кан. 469). Да яе заданняў належаць таксама зносіны з іншымі касцёльнымі ўстановамі, прыватнымі асобамі, а таксама са свецкай супольнасцю. Найпрасцей можна сказаць, што курыя пад кіраўніцтвам біскупа каардынуе дзейнасць Касцёла ў дыяцэзіі.*

*Найбліжэйшымі супрацоўнікамі біскупа ў курыі з'яўляюцца генеральны вікарый, біскупскія вікарыі, канцлер, эканом і кіраўнікі розных ведамстваў курыі.*

*Генеральны вікарый падтрымлівае біскупа ў кіраванні дыяцэзіяй, выконвае адміністрацыйныя заданні, разглядае найбольш важныя бягучыя справы, прымае наведвальнікаў і прадстаўляе дыяцэзіяльнага біскупа.*

*Біскупскія вікарыі прызначаюцца біскупам з мэтай дапамогі яму ў кіраванні часткай дыяцэзіі, групай асоб або для вырашэння нейкіх спраў. Яны выконваюць свае функцыі ў межах атрыманых ад дыяцэзіяльнага біскупа паўнамоцтваў і задач.*

*Вельмі важную ролю адыгрывае канцлер курыі, асноўная задача якога – клапаціцца пра падрыхтоўку і рассылку курыяльных актаў, а таксама пра захаванне іх у архівах курыі ў адпаведнасці з пастановамі кананічнага права. Маючы на ўвазе згаданыя абавязкі, можна сказаць, што канцлер адказны за дзейнасць канцылярыі (сакратарыяту) курыі. У канцылярыі курыі могуць служыць таксама натарыусы і сакратары.*

*Вялікую дапамогу дыяцэзіяльнаму біскупу аказвае эканамічная рада і эканом. У святле агульных норм кананічнага права да кампетэнцыі эканамічай рады, якую ўзначальвае сам дыяцэзіяльны біскуп, належыць кансультацыя, падрыхтоўка адпаведных планаў і кантроль у сферы эканамічных пытанняў дыяцэзіі.*

*Такім чынам, курыя і яе супрацоўнікі, дапамагаючы біскупу ў кіраванні даручанай яго пастырскай апецы часткай Божага люду, служаць таксама святарам і вернікам дыяцэзіі, якія ў выпадку патрэбы могуць звяртацца ва ўзгаданую ўстанову.*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
***Паводле catholicnews.by***




Беручы пад увагу надзвычайны прагрэс у медыцыне і псіхалогіі, мы можам лепш інтэрпрэтаваць стан і паводзіны: як уласныя, так і іншых людзей. Пры гэтым вера і рэлігія не з'яўляюцца ўзаемавыключальнымі паняццямі – уяўляюць сабой найважнейшыя элементы жыцця. Такая думка натхніла мяне разам з працаўнікамі Каталіцкай кансультацыі Гродзенскай дыяцэзіі стварыць на старонках газеты "Слова Жыцця" новую рубрыку **"Дапамагчы добрай радай".** Нашы спецыялісты дзякуючы адпаведнай кваліфікацыі здольны дапамагчы лепш зразумець сябе і сваіх блізкіх.

Можна сказаць, што мы жывём у часы некампетэнтнасці. Замест таго, каб маліцца за дзіця, калі яно палохаецца, многія накіроўваюцца да "бабак-шаптух", замест таго, каб пайсці ў групу падтрымкі для ананімных алкаголікаў, спрабуюць разнастайныя "кадзіраванні", замест таго, каб паразмаўляць са святаром, купляюць парадніке тыпу "дапамажы сабе сам" і г. д. Але праблемы ніколі не існуюць у чыстай форме. Сусветная арганізацыя здароўя адзначае, што на стан чалавека ўплывае таксама спосаб мыслення, пачуцці, якія носіць у сэрцы, неадпаведныя паводзіны і да т. п.

Ідэал духоўнага здароўя – гэта стан першапачатковай ласкі. Адам і Ева перад першародным грахом не хварэлі ні целам, ні душой: "І стварыў Бог чалавека паводле свайго вобразу, паводле Божага вобразу стварыў яго, стварыў мужчыну і жанчыну" (Быц 1, 27). Сённяшняя чалавецтва пакутуе ад розных хвароб, таму галоўным прадметам нашых разважанняў будзе здароўе: цялеснае, псіхічнае і духоўнае.

Напэўна, кожны хоць аднойчы перажываў нездаровыя сітуацыі. У цяжкую хвіліну важна натрапіць на асобу, якая сапраўды здольна дапамагчы. Пачуць ад кагосьці словы тыпу "не хвалюйся" – занадта мала. Большасць чакае канструктыўных рэкамендацый адносна таго, як справіцца з напаткаными цяжкасцямі.

Асноўным заданнем кансультавання з'яўляецца пазнанне іншага чалавека. Гэта штосьці большае, чым толькі назіранне за яго фізічным станам, таму што трэба браць пад увагу шмат іншых момантаў: вызнаваемыя каштоўнасці, узровень духоўнага жыцця, атрымліваемыя эмоцыі, успаміны і г. д. Праўда ў тым, што зразумець іншую асобу значна складаней, чым самога сябе.

Рубрыка "Дапамагчы добрай радай" будзе датычыць пытанняў і праблем, з якімі чалавек сутыкаецца кожны дзень. **Паважаныя Чытачы, калі Вас нешта непакоіць, у чымсьці сумняваецеся, шукаеце дакладнага тлумачэння або проста маеце патрэбу ў падтрымцы, можаце дасылаць свае лісты на паштовы або электронны адрас рэдакцыі, які змешчаны на апошняй старонцы газеты.** Спецыялісты Каталіцкай кансультацыі з задавальненнем дапамогуць добрай радай!



*Кс. Павел Салабуда, псіхолаг*

Хацелася б падкрэсліць, што ў першую чаргу трэба памятаць пра атрыманыя ад Бога звышнатуральныя дары: малітву, сакраманты, духоўнае кіраўніцтва. Езус з'яўляецца самым цудоўным Лекарам, а сакраманты – найлепшым лякарствам! Веды з вобласці псіхалогіі – таксама Божы дар. Тэрапію нельга супрацьпастаўляць малітве, сакрамантам ці духоўнаму кіраўніцтву. Усё гэта павінна супольна служыць здароўю чалавека.

# Адстойваючы хрысціянскія каштоўнасці

**У Беларусі працягваецца збор подпісаў за прыняцце закона супраць прапаганды аднаполых стасункаў сярод непаўналетніх. Гэта выраз клопату, які праяўляюць каталікі дзеля абароны традыцыйных сямейных каштоўнасцей перад абліччам пагроз сучасных тэндэнцый. Што менавіта стала прычынай узнікнення дадзенай ініцыятывы ў нашай краіне? Як праяўляецца ЛГБТ-прапаганда ў Беларусі і як яна можа паўплываць на сям'ю? Аб гэтым разважае Аліна Санько, удзельніца каталіцкай малітоўнай групы "У абарону жыцця" і каардынатар згаданай ініцыятывы на Гродзеншчыне.**



На працягу апошняга часу тэма сцірання гендэрных межаў усё часцей паўстае ў СМІ. Пад маскамі гендэрнай роўнасці ЛГБТ-тэмы прасоўваюцца ў дзяржаўную палітыку. Як мы ведаем, спачатку так адбывалася ў тых краінах, дзе сёння ўжо легалізаваны аднаполыя саюзы з правам усынаўлення дзяцей; дзе набірае папулярнасць бясполае выхаванне, паводле якога бацькі прапануюць дзіцяці самастойна вырашыць, з кім яно сябе атаясамлівае: з хлопчыкам ці з дзяўчынкай; дзе без дазволу бацькоў сын ці дачка можа змяніць свой пол.

Акрамя рэгулярных публікацый на тэму ЛГБТ у сацыяльных сетках і на інтэрнэт-парталах, праводзяцца квір-фестывалі, тэматычныя семінары, распаўсюджваецца ЛГБТ-сімволіка (вясёлкавы сцяг). Я асабіста сутыкнулася з ЛГБТ-прапагандай, калі знайшла ў пад'ездзе свайго дома буклеты з рэкламай квір-праекта, накіраванага на "разбурэнне шкодных стэрэатыпаў". Можна меркаваць, што ўяўленні пра традыцыйную сям'ю ў дзіцяці, якое з простай цікавасці можа трапіць у такое асяроддзе, будуць разбурацца як непатрэбныя.

Сярод моладзі актыўна распаўсюджваецца інфармацыя пра тое, што гомасексуалістамі нараджаюцца, а не становяцца, не зважаючы на тое, што гэтаму няма ніякіх афіцыйных пацвярджэнняў. Папулярызацыя падобных поглядаў ужо мае свае наступствы: у краінах з легалізаванымі аднаполымі адносінамі назіраецца ўсё меншая тэндэнцыя да ўтварэння сем'яў і зніжэнне нараджальнасці.

Касцёл адкрыта абараняе традыцыйную сям'ю, заснаваную на сужэнстве мужчыны і жанчыны. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які неаднаразова публічна выказваўся супраць гендэрнай ідэалогіі, сёлета выступіў з падтрымкай ініцыятывы па зборы подпісаў за абарону традыцыйных сямейных каштоўнасцей і супраць ЛГБТ-прапаганды сярод непаўналетніх. Мне здаецца, гэтая ініцыятыва з'яўляецца сведчаннем нашай вернасці вучэнню Касцёла. Яна аб'ядноўвае людзей перад абліччам цывілізацыі смерці, як яе назваў св. Ян Павел II. Гэта наша заява адносна таго, што мы, як кожны іншы ў сучасным талерантным свеце чалавек, маем права выказацца.

Я шчыра дзякую ўсім вернікам і святарам, якія рашуча абазначылі сваю пазіцыю. Заахвочваю таксама ўсіх неабыякавых да будучыні нашых дзяцей і хрысціянскіх сем'яў далучыцца да гэтай ініцыятывы.

## ДАВЕДКА "СЛОВА ЖЫЦЦЯ"

**Адносна гомасексуалізму Каталіцкі Касцёл дае выразны адказ: "Гомасексуалізм азначае адносіны паміж мужчынамі ці жанчынамі, якія адчуваюць сексуальную цягу, выключную або пераважную, да асоб аднаго з імі полу. Абапіраючыся на Святое Пісанне, якое прадстаўляе гомасексуальныя дзеянні як цяжкую форму распусты, Святая Традыцыя нязменна абвяшчае гомасексуальныя акты бязмоўна беззаконнымі. Яны супярэчаць прыроднаму закону, пазбаўляюць палавы акт яго функцыі дарavання жыцця. Яны не выцякаюць з сапраўднай эмацыянальнай і сексуальнай ўзаемадапаўняльнасці. Ні ў якім разе яны не могуць быць адобраны" (ККК 2357). Касцёл заклікае вернікаў пазбягаць "усялякай несправядлівай дыскрымінацыі" (ККК 2358). У той жа час падкрэслівае, што да мужчын і жанчын з гомасексуальнымі схільнасцямі "трэба ставіцца з павагай, спагадай і далікатнасцю" (ККК 2358). Касцёл асуджае не грэшнікаў, але грэх.**

**Схільнасць чалавека да гомасексуалізму не з'яўляецца грахом, але практыка падобных зносін выклікае гнеў Госпада. Разам з тым Божая міласэрнасць бязмежная і кожны, хто аступіўся, можа быць прабачаны. Калі чалавек, схільны да гомасексуалізму, жыве ў цнатлівасці, безумоўна не перастае з'яўляцца часткай супольнасці Касцёла.**

## НАВІНЫ



### ІНАЎГУРАЦЫЯ НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА Ў ТЭАЛАГІЧНЫМ КАЛЕДЖЫ

У Тэалагічным каледжы імя св. Казіміра ў Гродне адбылася інаўгурацыя новага навучальнага года. Урачыстасць распачалася св. Імшой у капліцы Вышэйшай духоўнай семінарыі. Эўхарыстыю ў інтэнцыі адказных за гэтую навучальную ўстанову і ўсіх яе навучэнцаў узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

Звяртаючыся да студэнтаў, іерарх адзначыў, што дзякуючы навучанню ў каледжы яны становяцца больш свядомымі вернікамі, глыбей падрыхтаванымі да сустрэчы з пытаннямі і праблемамі, якія нясе сучаснасць. Таксама ён падзякаваў кіраўніцтву і выкладчыкам каледжа за іх унёсак у падрыхтоўку будучых катэхетаў, адказных за лёс Касцёла і свету хрысціян.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У літургічны ўспамін бл. Ежы Папялушкі ў семінарыйную капліцу былі ўнесены яго рэлівіі. У дар атрымана частка косці мучаніка, прывезеная з Варшаўскай архідыяцэзіі.

Св. Імшу ў капліцы ўзначаліў канцлер гродзенскай курыі кс. канонік Аляксандр Мацкевіч. Святар наблізіў прысутным асобу благаслаўлёнага і прывёў яго ў прыклад адданасці службе Богу. Напрыканцы св. Імшы супольнасць памалілася аб заступніцтве благаслаўлёнага і ўшанавала яго рэліквіі.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТАЦЫІ



Завяршылася кананічная візітацыя дэканата Шчучын. У дзень успаміну св. Тэрэзы Авільскай біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч прыбыў у парафію ў Шчучыне. Іерарх адправіў адпустовую св. Імшу ў святыні і асвяціў новую капліцу ў кляштары айцоў піяраў, а таксама сустрэўся са старшынёй мясцовага райвыканкама і наведаў гарадскую бальніцу, дзе паразмаўляў з пацыентамі.

Завяршыў пастырскую візітацыю Шчучынскага дэканата дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, які наведаў касцёл свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Ражанцы. Мясцовыя католікі акурат у гэты дзень адзначылі 30-годдзе вяртання сваёй парафіяльнай святыні.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Члены Асацыяцыі Марыі Успамогі Хрысціян (ADMA) са Смаргоні прынялі ўдзел у агульнаеўрапейскай сустрэчы яе прадстаўнікоў у Турыне (Італія). Мерапрыемства, на якім сабраліся звыш 600 чалавек, прайшло пад дэвізам "Сустракацца, каб дзяліцца ласкай". Прысутныя разам дзякавалі Богу за 150 гадоў існавання ADMA.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Баранавічах (Пінская дыяцэзія) адбыўся IV Фестываль Марыйных спеваў "Mater Dei". Мерапрыемства прайшло напярэдадні заканчэння Фацімскіх аб'яўленняў і Дня маці, які адзначаецца ў Беларусі. У фестывалі, між іншым, прыняў удзел дзіцячы хор "Calasanz" са Шчучына.



### АДНЫМ РАДКОМ

• 25-годдзе заснавання парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля адзначылі ў Гродне. • Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі ў гродзенскай францішканскай парафіі Маці Божай Анёльскай. • Конкурс ружанца прайшоў у гродзенскай парафіі Святога Духа. • Недалёка ад Тракеляў (дэканат Радунь) добраўпарадкоўваецца "Гара прабачэння". • Маладыя сужэнствы з Іўя разам са сваімі дзецьмі прынялі ўдзел у сямейных рэкалекцыях у Сапоцкіне. • Кс. бп Аляксандр Кашкевіч адзначыў 70-ую гадавіну хросту ў роднай парафіі ў Эйшышках (Літва). • Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч на малой радзіме ў Адэльску (дэканат Гродна-захад) падзякаваў за 30 гадоў біскупскага служэння.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 кастрычніка 1936 г.** – кс. Юльян Юркевіч, *проб. Радунь;*
**1 лістапада 1972 г.** – кс. Мар'ян Чабаноўскі SChP, *проб. Ліда;*
**2 лістапада 1952 г.** – кс. Людвік Віткоўскі SDB, *проб. Дварэц;*
**9 лістапада 1950 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**10 лістапада 1940 г.** – кс. Казімір Лабан, *проб. Цудзенішкі.*

## АНОНСЫ

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні будуць праходзіць 6–8 лістапада ў кляштары сясцёр назарэтанак (вул. Першамайская, 26).**

Дэвізам рэкалекцый абраны словы: "Праз хрост я стану новым стварэннем. Хрост – новае нараджэнне, пачатак жыцця ў Хрысце".
Да ўдзелу запрашаюцца дзяўчаты з усіх дыяцэзій Беларусі.

*Запіс і дадатковая інфармацыя па тэлефонах: (8 033) 621-44-22 – с. Назарыя CSFN.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Маршрут пралягае да санктуарыяў Маці Божай Балеснай у Ліхені і Маці Божай Чанстахоўскай на Яснай Гары.**

Пілігрымка адбудзецца 15–17 лістапада.

*Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

### У ГРОДНЕ ПАЧЫНАЮЦЦА ФАРМАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ ШКАПЛЕРНАГА БРАЦТВА

**Яны будуць праходзіць у парафіях Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і Маці Божай Вастрабрамскай (Аўгустовак) 2 і 30 лістапада, 4 студзеня, 1 лютага, 7 сакавіка, 4 красавіка, 2 мая і 6 чэрвеня.**

Айцы кармэліты, якія праводзяць гэтыя сустрэчы, запрашаюць усіх, хто носіць святы шкаплер Марыі з гары Кармэль, а таксама ўсіх, хто цікавіцца кармэліцкай духоўнасцю і прагне наследаваць цноты Маці Божай у сваім штодзённым жыцці. Заахвочваюцца і жадаючыя атрымаць шкаплер з рук айцоў кармэлітаў, што можна зрабіць падчас кожнай сустрэчы.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ХОР "CANTATE DOMINO" АДЗНАЧЫЦЬ СВАЁ 20-ГОДДЗЕ

**З нагоды юбілею 22 лістапада ў 19.00 у гродзенскай катэдры будзе адпраўлена св. Імша.**

Пасля адбудзецца канцэрт хору пад кіраўніцтвам Генрыха Давідовіча, нязменнага кіраўніка і дырыжора "Cantate Domino".

*Сардэчна запрашаем!*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ ДА СВЯТЫХ МЕСЦАЎ

**У праграме аўтобусных паломніцтваў запланавана наведванне вядомых еўрапейскіх святынь і месцаў, дзе захоўваюцца рэліквіі многіх слынных святых.**

**Пілігрымка ў Лурд**
***Маршрут:*** *Ваўкавыск – Банэ – Парыж – Лізьё – Лурд – Арс – Ваўкавыск.*
***Выезд 13 ліпеня 2020 г. Працягласць – 8 дзён.***

**Пілігрымка ў Італію**
***Маршрут:*** *Ваўкавыск – Мілан – Турын – Асізі – Рым– Падуя – Асізі – Венецыя – Ваўкавыск.*
***Выезд 17 жніўня 2020 г. Працягласць – 8 дзён.***

*Атрымаць больш падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## Каляндар падзей

***28 кастрычніка***
*Свята свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша. Дзень імянін аб-па Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага. Даручаем Богу ў малітве шаноўнага імянінніка.*

***1 лістапада***
*Урачыстасць Усіх Святых.*

***2 лістапада***
*Успамін усіх памерлых вернікаў. За наведванне могілак 1–8 лістапада можна атрымаць поўны адпуст.*

***4 лістапада***
*Успамін св. Караля Барамея, біскупа. Дыяцэзіяльны дзень малітвы за памерлых святароў і кансэкраваных асоб.*

***7 лістапада***
*Распачацце Навэнны перад урачыстасцю НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці.*

***9 лістапада***
*Свята гадавіны асвячэння Латэранскай базілікі, катэдры Біскупа Рыма – маці ўсіх каталіцкіх касцёлаў у свеце. Молімся аб патрэбных ласках для кіравання Паўсюдным Касцёлам для Святога Айца Францішка.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***
*Аб даху над галавой для бяздомных і працы для беспрацоўных.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Лістапад***
*Аб памнажэнні сярод дыяцэзіян веры ў вечнае жыццё і боязі Божай у захаванні запаведзей.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Дзіцячы куточак

## Святыя заступнікі

**Прывітанне, Маленькі Чытач! Набліжаецца Урачыстасць Усіх Святых. Гэта адзін з самых радасных дзён для хрысціян. Успамінаем памерлых, якія знаходзяцца з Богам у Небе.**

*На працягу года амаль кожны дзень Касцёл узгадвае аднаго альбо некалькіх святых, вядомых па імені. Аднак іх колькасць значна большая. Шмат людзей прыйшлі да святасці ў цішыні і скрытасці.*

*1 лістапада Касцёл ушаноўвае ўсіх святых: афіцыйна прызнаных і невядомых. Урачыстасць нагадвае таксама праўду пра ўсеагульны заклік да святасці, бо кожны з вернікаў пакліканы да яе. Бог хоча, каб усе мы сталі святымі, аб чым трэба прасіць дапамогі ў нябесных заступнікаў.*

*Сёння хачу распавесці гісторыю адной жанчыны, якая сябравала са святымі.*

***Калі я была маленькай дзяўчынкай, часта хварэла. Мне прыходзілася падоўгу ляжаць у ложку. Высокая тэмпература і галаўны боль перашкаджалі чытаць кнігі ці гуляць з лялькамі. Нават не было сіл размаўляць са сваім плюшавым сабакам, які "хварэў" разам са мной.***

***Гадзіны цягнуліся бязлітасна доўга, ціканне стрэлак закалыхвала і раздражняла адначасова. Я чакала, калі бацькі вернуцца з працы, а сястра – са школы, бо тады яны заўсёды шмат размаўлялі са мной, каб пазбавіць ад нуды, прымушаючы забыцца пра хваробу.***

***Аднойчы тата сказаў, што з-за надыходзячага Дня Усіх Святых папрасіць святара прынесці мне ў госці Пана Езуса. Я была ўжо пасля Першай св. Камуніі і вельмі ўсцешылася. Мама падрыхтавала пакой для гэтага незвычайнага візіту: павесіла чыстыя фіранкі, склала цацкі на паліцу, заслала на стол накрухмаленую сурвэтку і паклала на яе Біблію, любімы крыж і свечку. Сястра ўпрыгожыла стол букетам рознакаляровых кветак і дапамагла мне пераапрануцца ў чыстую піжаму. Усё было гатова да чаканага візіту.***

***Уначы я доўга не магла заснуць: мучылася ад гарачкі. У дадатак да ўсяго, у галаву пачалі лезці непрыемныя думкі. Нейкі голас унутры казаў:***

***– Ага, вядома! Ты ўяўляеш сабе, што Пан Езус будзе старацца прыйсці да такой, як ты? Не, ніколі! Ты не адзіная ў свеце. Ён займаецца толькі дарослымі.***

***Я задрыжэла ад страху і смутку. Не мела сіл пратэставаць. Ужо гатова была бегчы да бацькоў, каб адмяніць візіт святара, калі цёмныя думкі змяніліся ясным ветрыкам. Я пачула ціхі смех і нечыя цёплыя словы:***

***– Не дай падмануць сябе. Езус вельмі любіць дзяцей, асабліва тых, хто самотныя, хворыя і сумныя.***

***– Такіх, як я? – падумалася мне.***

***– Менавіта так! – прагучала ў адказ. – Я прыйшла сказаць табе гэта і хачу, каб цярпліва чакала Яго. Гэта наш найлепшы Тата. Я атрымала ад Яго шмат руж і пакіну адну табе.***

***– О, дзякуй, дзякуй! Скажы мне, як цябе завуць? – спытала.***

***– Называй мяне Маленькай Тэрэзкай. Калі табе будзе сумна, кліч мяне! – голас звонка засмяяўся.***

***Праз момант зноў пачуўся непрыемны візгат:***

***– А Бога, ты думаеш, цікавяць дробязі? Што азначае для Яго адзін чалавек, калі Ён павінен кіраваць цэлымі народамі! Ты не вартая Яго ўвагі.***

***Зноў сумнію пракраўся ў сэрца. Але хутка я пачула чыйсьці прыгожы спеў пра тое, як Бог палюбіў увесь свет і кожную маленькую істоту, пра тое, з якой пяшчотай Ён апекуецца кожным чалавекам, жывёлай і нават самай маленькай раслінай. Голас, які спяваў, быў пяшчотным, нібы салодкі мёд, але і моцным, як хуткая рака. Калі ён скончыў свой спеў, звярнуўся да мяне:***

***– Ты вельмі важная для Пана Езуса. Ён памёр на крыжы як дзеля цябе, так і дзеля мяне. Не забывайся пра гэта. Я пакіну маленькае пяро. Калі будзеш глядзець на яго, падумай, што ты падобна на птушаня, пра якое клапоціцца Неба!***

***– А як цябе завуць? – ледзь паспела спытацца я.***

***– Францішак, – пачула ў адказ. – Успомні мяне, калі зноў пачнеш сумнявацца, што Бог цябе любіць.***

***Супакоеная гэтымі словамі, але і крыху ашаломленая, я заплюшчыла вочы. Перш чым паспела заснуць, пачула ядавіты воклік:***

***– Будзь уважлівай, бо гэтыя глупствы цалкам задураць галаву! Але ж ты такая наіўная, што Езусу не будзе аб чым гаварыць з табой. Яго святыя – вось яны дык мудрыя. Тая Тэрэзка стала доктарам Касцёла! А Францішак… Нібы такі бедны чалавек і дзівак, а яго манаскі ордэн адзін з самых шматлікіх у свеце! Ёсць яшчэ шмат іншых, і яны не гавораць праўду пра Бога. А праўда ў тым, што Ён шануе толькі мудрасць, справядлівасць... Ну што? Усё яшчэ верыш, што Езус прыйдзе да цябе?***

***– Ён абавязкова прыйдзе. Так, як да мяне, – сказаў нехта ціха, але выразна. – Я была неразумнай, аднак Бог мяне вельмі палюбіў. Скончыла толькі 4 класы пачатковай школы, і Ён быў не супраць. Захацеў пагаварыць са мной і навучыць веры ў Яго міласэрнасць, таму што гэта галоўнае. Давярай толькі Езусу. Я пакіну табе абразок, які быў намаляваны па Яго наказе, каб нагадваў табе пра ўсё гэта. Не апускай галаву і падрыхтуйся да заўтрашняй сустрэчы з Ім. Цяпер ужо будзеш спаць спакойна, а мы з сябрамі будзем сачыць за тваім сном.***

***– А хто ты? – прамармытала я, пазяхаючы.***

***– Фаўстына, – адказаў добры і сапраўды спакойны голас.***

***На наступны дзень я прачнулася і засмяялася. Тэмпература значна знізілася, галава была лёгкая. Я нецярпліва чакала святара, які павінен быў прынесці мне ў госці Пана Езуса. І калі гэта здарылася, была самай шчаслівай! Сам Бог прыйшоў да мяне! Бог адзіны!***

***Шмат гадоў мінула з той падзеі. Але кожны раз, калі прымаю св. Камунію, дзіўлюся, што Ён прыходзіць да мяне. Часта думаю пра гэта, а потым размаўляю са сваімі святымі сябрамі. Уявіце, што пазнала многіх з іх, і ўсе пакідалі мне штосьці на памяць: пра іх і, перш за ўсё, пра Бога. Можна сказаць, што на кожны дзень года маю такі "напамін", хаця з мноства памятак заўсёды вылучаю ружу, пяро ці абразок Божай Міласэрнасці.***

*Дарагі Маленькі Чытач! А ты ведаеш святых? Не губляй магчымасці, каб пазнаёміцца з імі. Смела прасі нябесных заступнікаў аб дапамозе, каб таксама здолець стаць святым.*

**Заданне:** ***падрыхтуй разам з бацькамі свой "рэцэпт святасці", а пасля з выразаных з паперы слядоў, на якіх напішаш "інгрэдыенты", выкладзі шлях да Неба. Кожны дзень рабі адзін крок наперад, каб станавіцца лепшым.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанага Ксяндза Доктара Юрыя Бяганскага**

прагнем ад усяго сэрца павіншаваць з паспяховай абаронай доктарскай працы і атрыманнем тытула доктара літургіі. Жадаем, каб веды, якія здабываеце, дазвалялі Вам больш поўна і плённа рэалізаваць пакліканне, а нас узбагачалі і натхнялі браццаў да новых выклікі на карысць Касцёла. Няхай вера і розум – тыя два крылы, на якіх людскі дух узносіцца да сузірання праўды – вядуць Вас да вяршынь святарскага і навуковага жыцця! Дарагі Ксёндз Доктар, дазвольце нам раздзяліць Вашу радасць!

*З глыбокай павагай вернікі з парафіі Наведзінаў НПМ у Тракелях*

**Паважанаму Айцу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, сілы, стойкасці і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю Усемагутнага, а выконваемая паслуга прыносіць радасць і бласлаўлёны плён.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Гродна-Дзевятоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар, а таксама стойкасці і зычлівых людзей побач. Няхай добры Бог Вас бласлаўляе, Святы Дух адорвае духоўным багаццем, а кожны дзень паслугі будзе напоўнены радасцю і спакоем. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве і ўдзячнасцю вернікі з капліцы ў Суражы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады душпастырскага служэння. Нялёгкі цяжар ляжыць на плячах, агорнутых сутанаю. Ніхто, акрамя самога Хрыста, да канца не ведае, якія вялізныя намаганні даводзіцца прыкладсці святару ў сваім служэнні. Ныглядзячы на гэта, у Вашых вачах мы бачым любоў і дабрыню. Жадаем, каб Бог аддзячыў Вам сваёй міласэрнасцю і шчодрымі ласкамі, дапамагаў трываць у веры і з яшчэ большай моцаю раскрываў у Вас патэнцыял Хрыстовага святара. Няхай Бог Айцец, Маці Божая і ўсе святыя апекуюцца Вамі і бласлаўляюць паўсюль, заўсёды, да канца жыцця. А біскупу дзякуем, што скіраваў да нас такога адданага святара.

*З вялікай удзячнасцю і пашанай парафіяне з Казлоўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і бласлаўлёны, здароўе не слабее, а людзі побач адорваюць дабрынёй і радасцю. Няхай Усемагутны Пан Бог адорвае сваімі бязмежнымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна чуваюць над Вамі.

*З памяццю ў малітве вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскам**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, усмешкі. Няхай вера становіцца ўсё больш моцнай, а абвешчанае Слова ўсё глыбей пранікае ў сэрцы вернікаў. Няхай на кожным кроку Вам спадарожнічае Пан Езус і абараняе ад усяго зла. Жадаем таксама шмат сіл і душэўнага супакою для актыўнага ўдзелу ў жыцці парафіі і супольнасці Касцёла.

*Вернікі з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а шчырая малітва і мудрыя, павучальныя казанні пранікаюць глыбока ў душы і цешаць людскія сэрцы. Будзьце святаром па прыкладзе Езуса Хрыста і надалей асвячайце людзей, даючы сведчанне сапраўднага хрысціяніна.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сілы, радасці, усмешкі, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа ды сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а дабрыня, вера і зычлівасць людзей заўсёды Вам спадарожнічаюць.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Дуды*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх далонях, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Святы Дух удзяляе шчодрых дары, а Найсвяцейшая Маці заўсёды мае ў сваёй апецы, каб Вы ў добрым здароўі маглі выконваць Божую волю. Спакой і дабро!

*Супольнасць Францішканскага ордэна свецкіх пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў паслузе на ніве Пана. Няхай Святы Дух нястомна будзе побач, каб Вы і далей вялі ўсіх вернікаў да збаўлення, а Маці Божая няхай засцерагае ад усякага зла.

*Удзячныя парафіяне і апостальства "Маргарытка" з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Дзякуем за прыклад набожнасці, добрае сэрца і за тое, што Вы з намі.

*Ружанцовае кола і вернікі з капліцы Вінцукі*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**; заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4; нумар заказу 4771; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная